З першых вуснаў

# Беларуссю кіруюць алігархі

*(Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.)*

**— Наколькі следства ведала асабістыя, сямейныя, прыватныя падрабязнасці Вашага жыцця, іншымі словамі, наколькі пільна сочаць сёння за наменклатурай у лукашэнкаўскай Беларусі?**

— Татальнае віжаванне, татальны кантроль, татальнае праслухоўванне. Я Вам магу сказаць, што больш за ўсё ўразіла мяне ў следчым ізалятары Камітэта дзяржаўнай бяспекі, што яны там таксама гавораць шэптам. Супрацоўнікі гавораць шэптам, паказваюць на стол. Хіба я не ведаю, хто над імі? Дагэтуль я думала, што Бог, а цяпер сумняваюся, не ведаю. Калі ім кажаш, што яны парушаюць Канстытуцыю альбо законы, яны паварочваюцца і паказваюць на стол. Усе супрацоўнікі кантактуюць пры дапамозе цыдулак, бо гаварыць нельга, сучаснае падслухоўваючае абсталяванне ўсюды. Усё чуваць, усё відаць. Калі хочаш сказаць нешта такое, каб не чулі чужыя вушы, пішы запіскі. Я пісала запіскі, а як жа.

**— А што потым рабілі з гэтымі цыдулкамі?**

— Пасля мы іх бралі, неслі ў прыбіральню, рвалі на дробныя кавалкі і змывалі ва унітаз... Вы ведаеце, мы ведаем, што заходнія разведкі, калі хацелі даведацца пра стан здароўя Брэжнева, дык нават у прыбіральнях нейкія сетачкі ўсталёўвалі. Я думаю, што нашы органы бяспекі яшчэ да гэтага не дадумаліся. Але, ва ўсялякім выпадку, чыноўнікі робяць так.

**— Што Вы мелі на ўвазе, калі ў адным з нядаўніх інтэрв'ю, кажучы пра беларуска-расійскую інтэграцыю, сказалі, што дагэтуль спрацавала толькі адна праграма — акупацыі Беларусі расійскім алігархічным капіталам?**

— На сённяшні дзень Рэспубліка Беларусь у 2,9 раза больш павінна іншым рэспублікам, замежным партнёрам, чым павінны ёй. Гэта значыць, сёння рэспубліка недзе каля 97 трыльёнаў рублёў павінна больш за пастаўленыя тавары, чым атрымала сама.

Што гэта за тавары? Гэта ў большай ступені, вядома ж, тавары расійскія. Гэта значыць мы павінны. Сёння Расія штомесячна пастаўляе нам на 60—70 мільёнаў долараў тавараў больш, чым мы пастаўляем ёй. У год гэта прыблізна складае 600—700 мільёнаў долараў — столькі мы павінны Расіі на сённяшні дзень. Гэта вельмі вялікія сумы.

Што такое тыя 700 мільёнаў, якія мы павінны? Гэта прыблізна тая ж сума траншу, аб атрыманні якога ад МВФ сёння ідзе гаворка ў Расіі.

**— Але ж у свой час Лукашэнку ўдалося падпісаць так званы нулявы варыянт і быццам уся запазычанасць была скасаваная?**

— Вось таму я і хачу сказаць, што гэта не зусім правільна, што ў нас роўнае супрацоўніцтва, што ў нас роўнае партнёрства. Сёння галоўнымі донарамі нашай дзяржавы з'яўляюцца пастаўшчыкі энергіі, паліва. Але ніхто ніколі не палічыў, ці трэба нам столькі энергіі, паліва.

Я, напэўна, вельмі здзіўлю радыёслухачоў і Вас, калі скажу, што, напрыклад, сёння ў войску ёсць лішкі нафтапрадуктаў, якія яны прадаюць. Вы здзіўлены? Я — таксама. Але тым не менш гэта ёсць.

Уся справа ў тым, што сёння алігархі ў Рэспубліку Беларусь пастаўляюць сыравінныя рэсурсы праз пасрэднікаў. Іх пастаўляюць столькі, колькі нам не патрэбна. Іх пастаўляюць па коштах нашмат ніжэйшых, чым, напрыклад, Украіне альбо іншым дзяржавам, чым замежным партнёрам. Бо яны забіраюць гэты прыбытак. Нават калі яны губляюць на розніцы ў коштах, яны выйграюць у курсе канвертацыі валюты.

Таму гэта вельмі выгадна сёння. І таму, калі прэзідэнт Лукашэнка ўзяўся за банкіраў, дык ведайце, што тут яшчэ ёсць вельмі вялікае пытанне. Справа ў тым, што колькі б банк ні быў вінны, ён пасля ўсё адпрацоўвае ўласным прыбыткам. Гэта значыць, што банк заўсёды свае даўгі адпрацуе. І сваю памылку.

Што датычыцца бюджэтных грошай, яны ўсе бескантрольна ідуць у Расію. Паглядзіце, калі ласка, што робіцца з эмісійнымі грашыма, якія выдзелены на будаўніцтва жылля. Сёлета за тры кварталы на тыя сродкі, што выдзеленыя камерцыйным банкам для будаўніцтва жылля па ўказе прэзідэнта, праграма выканана толькі на 36 працэнтаў. Прабачце. Што, прэзідэнт гэтага не бачыць, не бачаць ягоныя кантралюючыя органы? Ды бачаць яны ўсё. Гэтыя грошы сыходзяць у Расію, пракручваюцца.

Паглядзіце на сельскую гаспадарку. Хіба можна столькі сродкаў для сельскай гаспадаркі, колькі выдаткоўваецца?.. Гэта патрэбна пасрэднікам.

Чаму сёння патрэбна адзіная валюта? Таму што сёння Расіі трэба атрымаць за тое, што яна паставіла. І яна будзе пастаўляць заўсёды. Бо грошы адмываюцца. Беларусь ператворана ў "адмывачную машыну".

Я Вам магу прывесці тысячы прыкладаў, калі неразумна трацяцца бюджэтныя грошы, менавіта грошы народа. Назавіце мне, хто пакараны за гэта.

Вось я магу Вам назваць учарашняе выдатнае інтэрв'ю міністра транспарту Лукашова. Ён сказаў, што сёння на бабруйскім заводзе "Белшына" немагчыма купіць шыны для народнай гаспадаркі рэспублікі, што яны яшчэ ў жніўні зрабілі папярэднюю аплату, але ніякай прадукцыі не атрымалі, гэта значыць, яны як бы пракрэдыталі... І калі яму задаюць пытанне, а ўвогуле, у чым справа, дык ён кажа, што бабруйскі шынны завод даўно ўжо не працуе на эканоміку краіны і што з гэтым трэба разбірацца.

Дык калі Аляксандр Рыгоравіч бачыць, што нейкую салому не спалілі своечасова, дык што, ён не бачыць, што бабруйскі шынны завод?.. Калі міністр яму крычыць — бяда, што сёння гэтае прадпрыемства падпарадкаванае расійскаму капіталу, іншым капіталам, што, прэзідэнт не бачыць, што плыні гарэлкі ідуць фурамі з Магілёўскай вобласці? Ды бачыць ён усё.

**— Ці на самай справе Вы лічыце, што міністры ды іншае кіраўніцтва Беларусі сёння шчыра працуюць на карысць краіны, хочуць ёй дабра?**

— Для таго каб разабрацца, што адбываецца ў дзяржаве, трэба вярнуцца да перадвыбарчай праграмы двух кандыдатаў — Лукашэнкі і Кебіча.

Для таго каб стаць прэзідэнтам, патрэбны любоў народа і грошы. Праўда? Хто даў грошы прэзідэнту Лукашэнку для таго, каб узысці на трон? Бо таго, што выдаткоўваецца выбарчымі камісіямі, яўна недастаткова. Мы не ведаем, якія грошы бралі ўдзел у перадвыбарчай кампаніі.

Я ведаю, а Вы не ведаеце.

Дык вось, я Вам хачу сказаць, што сёння краінай кіруе той, хто даў грошы. Хто даў грошы? Грошы далі алігархі. І сёння алігархі кіруюць краінай. Аляксандр Лукашэнка не можа без узгаднення з імі прызначыць ніводнага кандыдата.

Аляксандар Лукашэнка прыбраў і мяне, ён сказаў, што майму жыццю пагражаюць тры банды. Дык што ж ён нікога не арыштаваў за тры гады? Што, ён не ў стане знайсці гэтых бандытаў? Ведае ён, хто...

Таму сёння ў Рэспубліцы Беларусь... не Лукашэнка не рэфармуе народную гаспадарку, не Лукашэнка не прыватызуе заводы. Сёння вельмі выгадна мець гіганцкія прадпрыемствы, якія тонамі спажываюць метал, якія цягнікамі бяруць угнаенні.

Гэта ж так выгадна алігархам вагонамі пастаўляць прадукцыю за бюджэтныя сродкі...

**— Назавіце самага багатага чалавека ў Беларусі, мясцовага алігарха.**

— Давайце будзем гаварыць аб алігархах наогул. Яны не толькі расійскія, яны — транснацыянальныя. Яны жывуць у Расіі і больш за ўсё жывуць у Маскве.

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь створана сістэма, якая называецца ў эканоміцы "вышэй парогу алігархічнасці".

Расія яшчэ толькі ідзе да гэтага. І калі ў Расіі сёння не перамогуць здаровыя сілы, яны пяройдуць да таго, што сёння ёсць у Беларусі.

Сёння ў Беларусі прызначаны адзін алігарх, які дзейнічае ад імя многіх алігархаў. Ён — алігарх па Беларусі, які кантралюецца, выконвае іх волю. Таму сёння ў эканоміцы такое становішча.

**Падрыхтавала Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

Люстэрка

## Летнія грошы напярэдадні Новага года

Напярэдадні Новага года аблвыканкам вырашыў папесціць жыхароў магілёўскай вёскі падарункамі у выглядзе ліквідацыі запазычанасцяў па летняй зарплаце. "Народная воля" ўжо паведамляла, што сотні калгасаў і саўгасаў маюць запазычанасці па зарплаце, а больш як у палове з іх не выплацілі грошы яшчэ за жнівень.

Новае распараджэнне аблвыканкама прадугледжвае новую схему ліквідацыі запазычанасцяў. Зараз усе сродкі, якія асядаюць на калгасных і саўгасных рахунках, будуць накіроўвацца на зарплату. На гэтыя ж мэты з'арыентавалі абласны фонд падтрымкі сельгасвытворцаў. Магчыма, жыхары сельскай глыбінкі Магілёўшчыны атрымаюць грошы, і на душы ў іх пацяплее. У сувязі з гэтым узнікае толькі адно цікавае пытанне: што перашкодзіла абласным уладам пайсці на гэты крок раней?

Я прапаную!

## Цяжкая доля чакае

Паважаная рэдакцыя!

Прапаную адкрыць у газеце рубрыку "Народная творчасць пра беларуска-расійскае аб'яднанне". Мне здаецца, чытачы падтрымаюць.

Пасылаю Вам свае радкі.

*— Наша мэта — на Усход, —*
*Заклікаюць наш народ...*
*Цяжка доля нас чакае,*
*Бо Майсея не хапае.*

**Васіль ЖУРКЕВІЧ.**

Мінск.

**P.S.** *Жадаю Вам поспехаў у змаганні за нашу Бацькаўшчыну.*

Як жывеш, глыбінка?

## Ужо каля месяца ААТ "Лунінецкі малочны завод" працуе чатыры дні ў тыдзень

Акрамя гэтага, усе супрацоўнікі па чарзе будуць вымушаныя браць неаплачваемы водпуск.

Адміністрацыя прадпрыемства была вымушана пайсці на такі крок з-за катастрафічнага зніжэння колькасці паступаючага на завод малака. Вытворчыя магутнасці прадпрыемства выкарыстоўваюцца зараз толькі на 30—40 працэнтаў.

Паводле інфармацыі Лунінецкага райсельгасхарчу, у лістападзе гэтага года ў гаспадарках раёна малака нарыхтавана на 25 працэнтаў менш, чым летась. Не хапае малака, а значыць, і малочных прадуктаў і ў суседніх раёнах. У Пінску ўжо на працягу месяца, каб набыць чаго-небудзь малочнага, чаргу ў краме трэба займаць з самага ранку.

## Вясной будзе дзейнічаць мост праз Гарынь

Мост, які зроблены на Пінскім сударамонтным заводзе, ужо дастаўлены на месца прызначэння. Ён складаецца з дзвюх несудаходных баржаў грузапад'ёмнасцю па 1000 тон кожная, а таксама дапаможных металічных пантонаў. Усю зіму мост прастаіць на беразе, а вясной будзе змантіраваны і пачне дзейнічаць. Такім чынам, мост злучыць два берагі Гарыні з размешчанымі на іх буйнымі вёскамі Століншчыны Беражное і Рубель.

Гэтыя і іншыя населеныя пункты Століншчыны моцна пацярпелі падчас апошняй веснавой паводкі.

## Пінскія прадпрымальнікі з 2 студзеня не будуць гандляваць

Справа ў тым, што адміністрацыя Цэнтральнага калгаснага рынку спыніла продаж гандлёвых месцаў на студзень прадпрымальнікам, якія не маюць даведак аб сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі сваіх тавараў. Аднак, па словах прадпрымальнікаў, атрымаць сертыфікаты вельмі цяжка — трэба ехаць у Брэст, здаваць кожны тавар у лабараторыю і г.д. Адным словам, няма простай і даступнай працэдуры сертыфікацыі. У знак пратэсту супраць дзеянняў адміністрацыі рынку прадпрымальнікі вырашылі не гандляваць з 2 па 8 студзеня, а калі кампраміс не будзе знойдзены — да 15-га і далей.

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ.**

Духоўны скарб




## Помнік святой Еўфрасінні Полацкай адкрыты!

Вялікая асветніца і заступніца зямлі беларускай, святая Еўфрасіння Полацкая... Гэтае імя дарагое кожнаму беларусу, чыя душа горнецца да высокай духоўнасці, нацыянальнай культуры і асветы.

Помнік славутай дачцэ Беларусі днямі ўрачыста адкрыты ў Мінску, у скверы ўнутранага дворыка Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

З натхненнем і хваляваннем працаваў над стварэннем вобраза асветніцы малады беларускі скульптар Ігар Голубеў. Такой яна ўявілася яму і адкрылася нашым вачам — са святлом адухоўленасці і дабрыні на твары, з разгорнутай кнігай у руцэ...

Дарэчы, універсітэцкі скверык ператвараецца ў своеасаблівую мастацкую галерэю пад адкрытым небам: тут устаноўлены скульптурныя выявы іншых выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры і навукі.

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА.**

Озорные мысли

## О передаче "Падзея"

Интересная передача. Интересные люди в ней выступают. Особенно интересно сравнивать выступления в ней различных людей. Не верите?

Итак, передача от 7.11.99 г. Выступает некто Матусевич, руководитель аналитического центра (или похожей структуры) при президенте Республики Беларусь, и уверенно говорит о том, что объединение двух стран идет не "от фонаря", а на основе тщательного опроса мнения населения той же Республики Беларусь. Мол, был предложен вопрос "Каким Вы видите объединение Беларуси с Россией?" с четырьмя вариантами ответов:

1. Конфедеративное государство.
2. Федеративное государство.
3. Единое государство с разграниченными полномочиями.
4. Союз двух суверенных государств с единой валютой, таможней, армией.

И большинство населения склонно к четвертому варианту. Мне хотелось бы спросить уважаемого выступавшего:

— Неужели Вы всерьез верите, что основная масса нашего населения видит четкую границу между этими вариантами? Да откройте же глаза и не пудрите нам мозги! Ваши "99,9% населения" не видят абсолютно никакой разницы между этими четырьмя вариантами. Да я уверен, что даже специалисты будут спорить о том, чем отличается четвертый вариант от первых двух! Ну, да ладно.

Теперь возьмем передачу от 8.11.99 г. Некто, руководитель парламентской группы по тем же вопросам, столь же уверенно и не моргнув глазом утверждает уже обратное:

— Большинство населения Республики Беларусь, как верно заметил наш президент, выступая в Кремле, в подавляющем большинстве своем поддерживает идею создания единого государства! (Не, правда ли, очень напоминает хорошо знакомое старшему поколению: весь наш советский народ единогласно...)

Но вернемся к нашим баранам. Итак, большинство населения Беларуси за создание единого государства или за союз двух суверенных государств? Мне хотелось бы, чтобы в дальнейшем, уезжая из страны, А.Лукашенко давал четкие разъяснения своим аналитическим группам, чего же все-таки хочет народ Беларуси!

### Лозунг

Вперед, к победе не знаем чего!

### О названии нового единого государства

Предлагаю БССР. Что означает "Беларусь, соединенная с Россией".

**Николай ГОДОВ,**
**житель микрорайона Сухарево г.Минска.**

## Приправа к антидемократическому блюду везде одинакова, считает посол Португалии в Республике Беларусь Луис Гонсалес

Посол Португалии в Республике Беларусь Луис Пачеко Гонсалес встретился с лидерами политических партий и руководством Верховного Совета. Интерес к этой встрече обусловил тот факт, что Португалия с 1 января председательствует в Евросоюзе.

Посол вспомнил историю своей страны до 1974 года. "Приправа к антидемократическому блюду везде одинакова: нарушения прав человека, политзаключенные, гонения на свободу слова", — резюмировал Гонсалес.

Комментируя итоги встречи, заместитель председателя Верховного Совета Анатолий Лебедько отметил, что в Европейском Союзе каждые шесть месяцев меняется председательствующий, но позиция по отношению к политике белорусского режима остается неизменной.

**Антон КОРЗУН.**

Жыццё як яно ёсць

## Як у Крычаве падарылі італьянцам вязку цыбулі і торбачку фасолі

— Гэта ж мае італьянцы ў госці прыязджалі, — з такімі словамі, як бы просячы прабачэння, бабулька перадала кантралёру сбербанка 200 долараў ЗША з тым, каб тая паклала грошы на валютны рахунак.

Гэтая рэпліка адцягнула мяне ад уласных невясёлых думак і, шчыра кажучы, зацікавіла.

Стоячы ў чарзе, якая сабралася ў цэмзаводскім аддзяленні "Беларусбанка" і спадзеючыся заплаціць за святло, я ніяк не мог уявіць сабе, што размова пойдзе пра нейкіх завітаўшых да нас італьянцаў. Іншаземцы ў Крычаве — з'ява вельмі рэдкая. А старая, якую відавочна распірала жаданне падзяліцца з усімі навакольнымі сваім шчасцем, распавядала далей...

З яе словаў высветлілася, што падчас летніх вакацый у італьянскай сям'і адпачываў яе ўнук. І вось зусім нядаўна вясёлыя "макароннікі" завіталі ў Крычаў з візітам ветлівасці. А паколькі наіўныя капіталісты не зусім добра ведалі ўмовы жыцця беларускіх грамадзян, то прыехалі яны ўшасцёх, ды яшчэ з перакладчыкам і вадзіцелем.

Ну куды ж іх класці спаць, калі нашы кватэры больш падобныя на каморку таты Карлы? Не ведалі землякі бацькі Бураціна, што яшчэ сустракаюцца ў Еўропе такія каморкі і што некаторыя людзі называюць іх нават кватэрамі. Не ведалі, што такія каморкі з'яўляюцца заветнай, а для многіх нязбыўнай марай.

Ну чым жа іх карміць, калі і самім не хапае? Ды і не будуць есці італьянцы нашы шэрыя макароны ды крывяную каўбасу.

Дарэчы, хтосьці з чаргі спытаў у бабулі, маўляў, чым жа ты іх частавала за сталом, няўжо **нашай** ежай? Выявілася, што, канешне ж, не. Былі прададзеныя 50 долараў і куплена больш-менш прыстойная ежа, нават сухое віно. Так што італьянцы, па словах старой, засталіся задаволеныя.

І дурню зразумела, што, прыехаўшы з далёкай Італіі такой вялікай кампаніяй, наняўшы перакладчыка і вадзіцеля, іншаземцы планавалі пажыць у Крычаве больш-менш працяглы час. Але тут яны сутыкнуліся з нашымі ўмовамі жыцця і з нашымі каморкамі таты Карла. Таму, пагасцяваўшы ў Крычаве паўтара дня, пераначаваўшы ў гасцініцы цэментна-шыфернага камбіната і папярэдне адарыўшы падарункамі і грашыма гасцінных гаспадароў і іхніх суседзяў, усё разумеючыя госці ўкацілі дахаты.

На развітанне, у знак пашаны, гаспадары падарылі італьянцам вязку цыбулі і торбачку фасолі.

Добрыя і наіўныя іншаземцы яшчэ вельмі працяглы час будуць з цеплынёй узгадваць сваіх шчырых сяброў з Крычава, наша блакітнае халоднае неба і горкую беларускую цыбулю.

А яшчэ яны будуць узгадваць брудны пасёлак цэментнікаў, шэрыя твары заўсёды п'яных крычаўцаў, чэргі жабракоў у жабрацкіх магазінах і... каморкі таты Карлы.

**Васіль КРЫЎЦОЎ.**

г.Крычаў.

## Гародніны хопіць да вясны

Тры тоны квашанай капусты і салёных агуркоў адправілі ў расійскую сталіцу ў абмен на цукар нарыхтоўшчыкі Шаркоўшчынскага раёна. У адрозненне ад мінулых гадоў сезон нарыхтоўкі на зіму садавіны і гародніны быў для іх вельмі паспяховым. Перакрыты аб'ёмы прыпасаў па ўсіх паказчыках і апроч пераборлівых масквічоў ацэняць смакавыя якасці капусткі і мясцовыя жыхары. Квашанай захоўваецца ў сховішчах 16 тон, а свежай — у тры разы болей. Да вясны не будзе праблем з бульбай, якой закупілі 443,9 тоны, а таксама з морквай, цыбуляй, буракамі і нават з журавінамі для гурманаў — яе назапасілі 14,3 тоны. Калі ўлічыць, што мяса зараз дарагое, прыйдзецца жыхарам райцэнтра больш есці гародніну з бульбай. Вітамінны голад людзям дакладна не пагражае, бо ў Шаркоўшчыне працуе і кансервава-агароднінасушыльны завод.

**Уладзімір ШЫМОЎСКІ.**

## Толькі лес — хадавы груз

Кожны месяц каля трыццаці вагонаў, нагружаных лесам, адпраўляе па заяўленых адрасах калектыў чыгуначнай станцыі Параф'янава Докшыцкага раёна. Палову грузаў адпраўшчык — Бягомльскі лясгас прадае за межы Беларусі. За выключэннем збожжа ў сезон масавых нарыхтовак у астатні час мясцовых грузаў няма, хоць для кліентаў зменшылі тарыфы на 15—30 працэнтаў. Амаль чацвёртую частку тэрыторыі раёна займаюць землі лясгаса. Пасля таго, як яму сёлета перадалі ад калгасаў і саўгасаў 13 тысяч гектараў лесапасадак, пад лесам апынулася ўжо трэцяя частка тэрыторыі бярэзінскага краю. Санітарныя рубкі і рубкі догляду сёлета праведзены на 2132 га, а вось маладога лесу пасаджана было толькі 308 гектараў.

**Уладзімір ШАЙКОЎ.**

Громкое дело

## Верховный суд решил встретить 2000 год с чистой совестью?

Весьма неожиданный подарок от белорусской Фемиды получил под Новый год Михаил Чигирь — Верховный суд Республики Беларусь отменил решение столичного суда о начале судебного процесса над экс-премьер-министром "под елочку" — 27 декабря 1999 года. Дело, конечно, не в самой дате. Хотя по большому счету судить за четыре дня до 2000 года не совсем гуманно. Но быть гуманными должностные лица государства в общем-то не обязаны, а вот действовать в строгом соответствии с законом должны. Особенно — судьи, которым, в отличие от других чиновников, уж никак нельзя сослаться на незнание закона.

Увы, даже судьи столичного суда законы не знают, а если и знают, то не выполняют. Верховный суд вынужден был напомнить Минскому городскому суду, что судья Н.Самосейко, записав в определении распорядительного заседания, что деяния, вменяемые М.Чигирю, содержат признаки состава преступления и правильно квалифицированы по инкриминируемым следствием статьям, **предрешил тем самым вопрос о виновности**.

Юрист Самосейко грубо нарушил одну из основополагающих норм Уголовно-процессуального кодекса (статья 223). Более того, как выяснил Верховный суд, судебная коллегия городского суда вопрос о доказанности предъявленного следствием обвинения, правильность квалификации преступных деяний, виновность привлеченных по делу лиц даже и не рассматривала(!?). А для кого же тогда, позвольте спросить, написана статья 224 УПК, требующая от судей проведения распорядительного заседания для выяснения именно этих вопросов?

И вообще непонятно, заглядывают ли хоть изредка в УПК в Минском городском суде? Кто принял решение о рассмотрении данного дела судьей Самосейко, который перед этим рассматривал жалобы обвиняемого Чигиря на арест и продление его сроков? Ведь в статье 28 УПК черным по белому записано: "**Судья, принимавший участие в рассмотрении дела в суде кассационной инстанции, не может участвовать в рассмотрении дела в суде первой инстанции**".

Судья Самосейко нарушил и статью 13 УПК об открытом разбирательстве дел в суде. Однако Верховный суд об этом умолчал. А ведь это вопиющее нарушение основ правосудия. Тем не менее как правозащитник надеюсь, что высшая судебная инстанция вопрос этот без внимания все же не оставит.

Но как бы то ни было, Михаил Чигирь может теперь спокойно готовиться к встрече столь особенного для нашего поколения года. Новый год с тремя нулями имеет место лишь второй раз за историю современной цивилизации. А столичный суд, судя по всему, передаст дело районному суду, и судебный процесс начнется не ранее середины января уже нового, 2000, года.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

## Над Лёзнам зноў узвышаўся бел-чырвона-белы сцяг

Раніцай 22 снежня над Лёзнам зноў залунаў бел-чырвона-белы сцяг. Ён быў прымацаваны, як і звычайна, да 30-метровай апоры высакавольтнай лініі электраперадач у 35 тысяч вольт, што стаіць пры ўездзе ў Лёзна.

Апоўдні сцяг быў зняты супрацоўнікамі электрасетак. Пры ім знайшлася і запіска з наступным тэкстам: *"Праклятаы узурпатар, табе не задушыць беларускі дух, а за свае злачынствы ты яшчэ адкажаш. Мірон".*

З'яўленне сцяга над Лёзнам — з'ява даволі звычайная, але ў гэтым, напэўна, ёсць нейкі сэнс. Чаму ўжо другі раз Мірон выбірае менавіта 22 снежня для здзяйснення сваіх акцый? Першы раз, калі памятаюць чытачы, бел-чырвона-белы сцяг з'явіўся над Лёзнам два гады таму на 40-метровай трубе кацельнай райбыткамбіната. Што гэтым хоча сказаць Мірон?

**Алесь КРУГЛЯК.**

Скандал

## Как литовский гражданин узурпировал белорусское "Отечество"

***Не на шутку разгорелись страсти в общественном объединении "Белорусский союз "Отечество". Оказывается, все это время от имени белорусской организации выступал гражданин Литвы.***

Белорусский союз "Отечество" был создан в декабре 1998 года по аналогии с российским "Отечеством". О том, что существует такая организация в Беларуси, мало кто знал. Но, как говорится, до поры до времени.

В октябре этого года о белорусском "Отечестве" заговорили. Заговорили после того, как первый секретарь ЦК белорусского союза Валерий Макеев встретился в Москве с лидером российской общественно-политической организации "Отечество" Юрием Лужковым, и в ходе этой встречи лидеры двух "Отечеств" подписали договор о сотрудничестве.

По возвращении в Минск Валерий Макеев дал интервью некоторым белорусским газетам, выступил на Белорусском телевидении в "Политических диалогах", где с пафосом рассказал о том, что есть два "Отечества" — российское и белорусское, и они готовы сотрудничать. А спустя какое-то время в белорусской столице появился плакат-листовка, с которого смотрели известный всем Юрий Лужков и неизвестный никому молодой человек Валерий Макеев. Внизу было написано: "Сохраним наше Отечество".

*— Какое Отечество собирается сохранять гражданин Литвы Валерий Макеев?* — рассказывает секретарь ЦК Белорусского союза "Отечество" **Виктор Бабак**. — *В начале сентября несколько членов нашей организации обратились в Минюст с заявлением, что они ставят под сомнение подлинность устава белорусского союза "Отечество" и правомерность избрания первым секретарем организации Валерия Макеева — гражданина другого государства.*

*Вскоре мы получили ответ. Министерство юстиции подтвердило, что Валерий Макеев действительно является гражданином Литвы, а значит, не только руководителем, но и членом белорусского общественного объединения он быть не может. На запрос Министерства юстиции начальник Управления паспортно-визовой службы МВД Стесик ответил, что Макеев имеет многократную визу, на основании которой он проживает в Беларуси. Первоначальный срок ее действия истек 30 ноября этого года. Кроме того, Минюст не признал правомерным законность второго съезда "Отечества", который состоялся в июне текущего года. Получается, как бы нет съезда, а значит, нет и руководителя.*

*Имея на руках документы, 14 декабря мы провели собрание инициативной группы членов "Отечества".*

*Макеев присутствовал на собрании, очень бурно и шумно заявил о наличии с 15 декабря у него новой визы и даже прописки. Правда, паспорта при этом у него не было. Но ведь известно, что прописку может получить только человек, имеющий вид на жительство в нашей стране или гражданство. У Макеева была только многократная виза...*

Валерий Макеев появился в Беларуси два года назад, громогласно заявив, что его, как бывшего комсомольца и одного из руководителей ленинского комсомола в Литве преследуют в Вильнюсе. Тогда же Макеев обратился к президенту Беларуси с ходатайством о предоставлении убежища в Беларуси, однако Лукашенко своим решением отказал ему.

Тем не менее Макеев не торопился и, судя по всему, не собирался покидать доброжелательную Беларусь. Решив, что кому как не ему знакома работа с молодежью, он предложил свои опыт и знания Белорусскому патриотическому союзу молодежи. Какое-то время его называли соратником Янчевского. Макеев пытался издавать газету БПСМ, потом учинил скандал, с шумом ушел из БПСМ и попытался опубликовать на Янчевского компромат. Следующим этапом его деятельности стала работа в белорусском физкультурно-оздоровительном обществе "Спартак", где до настоящего времени идет следствие, а затем в Белорусском союзе "Отечество".

*"По информации секретаря Вильнюсского горкома компартии Литвы, кстати, которая посылалась и в Министерство юстиции Беларуси,* — рассказывает Виктор **Бабак**. — *есть все основания сделать вывод, что о своем политическом прошлом Макеев приврал: никаким легендарным политическим деятелем и политическим изгоем он не был, а преследовался прежде всего по причинам того, что не всегда достаточно легально и законно занимался в Литве бизнесом. И сейчас, выступая с политическими лозунгами от имени Белорусского союза "Отечества", он пытается сделать себе капитал.*

*Макеев сильно скомпрометировал нашу общественную организацию. Сейчас перед нами стоит очень важный вопрос: как быть дальше?*

*Что такое российская общественно-политическая организация "Отечество" и что такое Белорусский союз "Отечество"? Мы себя к коммунистам не относим. Наш союз ставит перед собой задачи скорее экономические, и нас интересует Россия только как экономический партнер".*

Сегодня группа депутатов Верховного Совета Беларуси 13-го созыва собирается отправить депутатский запрос в Литву, в министерство внутренних дел и в прокуратуру этой страны, чтобы выяснить, каким образом Валерий Макеев оказался в Беларуси и чем он занимался у себя на родине.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**P.S.** *В целях сохранения объединения на период подготовки к внеочередному (чрезвычайному) съезду решением ЦК Белорусского союза "Отечество" полномочия первого секретаря ЦК общественного объединения Белорусский союз "Отечество" возложены на Виктора Ивановича Терещенко.*

